ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№2 (35) люты 2014 год
ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ
Кошт свабодны



# Росіца зноў кліча

**Росіца – вёска ў Верхнядзвінскім раёне, прыгожы куточак Віцебшчыны. Але ці толькі прыродная прыгажосць вабіць у Росіцу вялікую колькасць людзей з розных мясцін? Гэтае святое месца прыцягвае пілігрымаў асаблівай малітвай, духам любові і ахвярнасці.**

■ **Алена Пажога**, *тэкст;*
**Марына Сінкевіч**, *фота*

Шматлікія вернікі з розных парафій Беларусі, святары, манахі і манахіні прыбылі ў Росіцу 15 лютага, каб ушанаваць памяць росіцкіх пакутнікаў, каб маліцца праз заступніцтва благаслаўлёных айцоў-марыянаў Юрыя Кашыры і Антонія Ляшчвіча за свае сем'і, за тых, хто сёння згарае ў грахоўным полымі, за нашу Бацькаўшчыну. Па-бацькоўску цёпла прывітаў усіх прысутных у святыні айцец Чэслаў Курэчка.

## Росіцкая трагедыя

У ваенным 1943 годзе ў часе росіцкай трагедыі ў полымі загінула 1528 чалавек, сярод якіх былі а. Антоні Ляшчэвіч і а. Юрый Кашыра. Яны прынеслі сябе ў ахвяру за гэты народ, які так бескарысліва і моцна любілі. Трагедый, падобных да росіцкай, наша Беларусь зведала нямала. Але няшмат было выпадкаў, каб людзі свядома і ахвярна прымалі смерць. Святары маглі захаваць сабе жыццё, але не пажадалі гэтага зрабіць, бо захацелі да канца раздзяліць лёс тых, каго вялі да Бога. А таму і росіцкая трагедыя ўспрымаецца як ахвяра за нас і нашу Бацькаўшчыну. У 1999 г. Папа Ян Павел II абвясціў росіцкіх мучанікаў блаславёнымі.

## Вернасць і трываласць

Урачыстую святую Імшу цэлебраваў ардынарый Віцебскай дыяцэзіі біскуп Алег Буткевіч. Іерарх падчас казання звярнуў увагу на вернасць і трываласць у святарскім пакліканні блаславёных Юрыя Кашыры і Антонія Ляшчэвіча, якія прынялі мучаніцкую смерць разам з давераной ім паствай і засталіся святарамі навечна. Дзякуючы малітвам праз заступніцтва блаславёных людзі навяртаюцца да Бога. Таксама біскуп падкрэсліў, што ў нашым сучасным жыцці вельмі не хапае вернасці і трываласці ў сем'ях, у прафесійным пакліканні. Малітва ў росіцкай святыні дапамагае ўзрастаць у веры і вернасці жыццёваму пакліканню.

На заканчэнне набажэнства айца Чэслава Курэчку горача павіншавалі з прысваеннем ганаровага звання "Чалавек года Віцебшчыны" ардынарый Віцебскай дыяцэзіі, старшыня Верхнядзвінскага райвыканкама і вернікі. Айцец Чэслаў, верны ў сваім святарскім пакліканні, стварае вакол сябе прыгажосць і дапамагае многім людзям знаходзіць дарогу да Бога.

*Працяг на стар. 5*

# Год з двума папамі



**Год назад у сучаснай гісторыі адбылася падзея, якая стала яскравым сведчаннем Боскай сутнасці Каталіцкага Касцёла. Папа Рымскі Бэнэдыкт XVI абвясціў пра сыход у адстаўку.**

■ **а. Зміцер Чарнель**, *рэдэмптарыст*

## Сведчанне пакоры

Кіраўнік больш чым мільярднай супольнасці, пашыранай па ўсім свеце, засведчыў, што спакусы ўлады і славы не маюць у ім прыстанку, прадэманстраваў адданасць Богу і гатоўнасць выконваць волю Пана ў адказнасці за давераныя яму абавязкі. «Каб кіраваць чоўнам святога Пятра і абвяшчаць Евангелле ў сучасным свеце, падлеглым хуткім пераменам і ўзрушаным пытаннямі, якія маюць вялікае значэнне для жыцця веры, неабходная сіла і цела, і духу, каторая ў апошнія месяцы аслабла ўва мне настолькі, што павінен прызнаць сваю няздольнасць да добрага выканання даверанай мне паслугі», – гэтыя пакорлівыя словы Святога Айца ўразілі ўвесь свет, нават тых, хто крытыкаваў і асуджаў яго дзейнасць.

Напярэдадні гадавіны адмаўлення Бэнэдыкта XVI ад пасады біскупа Рыма, якая прыпадае на 11 лютага 2014 г., кіраўнік Залы Друку Апостальскай Сталіцы кс. Федэрыка Ламбардзі, што блізка супрацоўнічаў з Папам на працягу ўсіх гадоў яго пантыфікату і адным з першых даведаўся пра яго нялёгкае рашэнне, нагадаў: перш чым адмовіцца ад кіравання Касцёлам, Святы Айцец доўга разважаў і маліўся. Моцная вера дазволіла яму са спакоем і сілай прыняць рашэнне, якое “паўплывала на гісторыю Касцёла”, і з адвагай крочыць насустрач гэтай новай сітуацыі.

## Служэнне ў глыбіні душы

Постаць Бэнэдыкта XVI у момант адрачэння стала своеасаблівым падсумаваннем усёй яго дзейнасці на пасадзе св. апостала Пятра. Пакора і малітва прысутнічалі ва ўсім, што ён рабіў як Папа. Стаўшы на чале Хрыстовага Касцёла, ён застаўся тым, кім быў – праўдзівым багасловам, паводле Евагрыя Пантыйскага: “Багаслоў той, хто моліцца”. Бэнэдыкт XVI намагаўся пазнаць Бога, шукаў Божую праўду ў малітве і дзейнічаў з глыбіні сваіх перакананняў, якія ён чэрпаў са скарбніцы Касцёла. Яго пантыфікат быў абаронай скарбаў Божай праўды, якія пакліканы ахоўваць Каталіцкі Касцёл у свеце людзей. Скарбаў праўды, якія ён пранёс праз гады свайго служэння як Папа, трымаючы іх, нібы агеньчык, затуляючы ад моцных вятроў, што намагаліся патушыць яго.

“Я вось гатовы стацца ахвярай, і час майго адыходу наближаецца. Змагаўся я ў добрым змаганні, бег закончыў, веру захаваў” (2 Цім. 4, 6-7). Гэтыя словы ап. Паўла цудоўна ілюструюць учынак Бэнэдыкта XVI. Агеньчык веры гарыць, Папа захаваў яго, і, адчуваючы, што сілаў далей затуляць яго ад ветру не хапае, ён пакорліва перадае гэтую місію таму, хто гэтыя сілы будзе мець.

## Збаўленне надзеяй

Гэтым новым ахоўні-кам веры стаў Марыё Бергольё, арцыбіскуп з Аргенціны, які прыняў імя Францішак. “Папа Францішак – гэта чалавек Евангелля, адкрытасці, дыялогу, чалавек бедных, чалавек сацыяльнай справядлівасці. Гэта чалавек вельмі ўважлівы да стварэння супольнасцяў не фальшывых, не тэатральных, а тых, якія адпавядаюць сапраўднай прыродзе асобы: быць свабодным перад сабой, свабодным ад уласных страхаў і страхаў, выкліканых звонку, каб дазволіць чалавечай асобе заквітнець ва ўсёй яе паўнаце, паводле Божага вобразу”. Так ахарактарызаваў яго Апостальскі Нунцый у Беларусі арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроці.

Можам быць перакананымі, што Папа Францішак на пасадзе ап. Пятра ёсць плодам таксама малітвы яго папярэдніка – Бэнэдыкта XVI. Не маючы сілы сам, Святы Айцец выпрасіў гэтую ласку ў Пана для таго, хто будзе пасля яго. Сёння мы можам бачыць не толькі асаблівы аўтарытэт у народаў Папы Францішка, але і плады малітвы Папы Бэнэдыкта, практычнае сведчанне таго, на што здольная “стойкая малітва праведнага” (Як. 5, 16).

*Няхай жа кожны з нас стане другім, трэцім, чацвёртым памочнікам Папы*

Пасля смерці Яна Паўла II многім здавалася, што ўсе яго пераемнікі асуджаныя на пастаяннае і нявыгаднае параўнанне, а Каталіцкі Касцёл – на няўхільную страту папулярнасці. Аднак усяго за год новы пантыфік адрадзіў надзеі вернікаў і змог вярнуць аптымізм.

Папа Францішак – гэта Евангелле звонку. Калі пантыфікат Папы Бэнэдыкта можна ахарактарызаваць як спагляданне і перажыванне Божай Таямніцы ў глыбіні чалавечай сутнасці, то служэнне Папы Францішка азнаменавалася знешнім выражэннем гэтага спаглядання. Напэўна, Божы Провід падбаў пра тое, каб у кіраванні Касцёлам склалася сітуацыя, падобная да каталіцкай традыцыі богапасвечанага жыцця, калі кантэмплятыўныя супольнасці манахаў у цішыні свайго жыцця моляцца за поспех апостальскіх працаў супольнасцяў місіянерскіх. Сёння наш Святы Айцец мае, прынамсі, аднаго чалавека, які моліцца за яго служэнне – свайго папярэдніка Бэнэдыкта XVI. Няхай жа кожны з нас стане другім, трэцім, чацвёртым памочнікам Папы, творачы так сусветную супольнасць, аб'яднаную ў малітве і адданасці Божаму Валадарству!

# Хвароба – не праклён

Вернікі глыбоцкай парафіі Святой Тройцы 11лютага далучылі свае малітвы да малітваў за хворых, якія ўзносіліся ва ўсім свеце з нагоды Сусветнага дня хворага. Чарговая парафіяльная падзея – “Адкрыццё на людзей, якія церпяць” – стала добрай магчымасцю атуліць усіх хворых малітвай і клопатам, паказаць іх значнасць у жыцці парафіі.

Пробашч ксёндз-прэлат Мечыслаў Янчышын падкрэсліў падчас казання, што хвароба не праклён, не пакаранне, а Божая ласка. Хворыя пакліканыя для паяднання з Хрыстом, Які церпіць, для ахвяравання цярпенняў у імя збаўлення сваіх блізкіх і ўсяго свету. Кожны ж чалавек павінен дапамагаць па меры сваіх магчымасцяў хворым у нясенні цяжкага крыжа.

Узносіліся малітвы за ўрачоўіусіхмедыцынскіх работнікаў, за тых, хто атуляе чулай любоўю і клопатам хворых у сем'ях. Святары ўдзялілі сакрамант намашчэння хворых, каб падтрымаць вернікаў асаблівай ласкай умацавання, супакою і мужнасці ў жыццёвых выпрабаваннях.

Пасля св. Імшы адбыўся невялікі канцэрт на знак таго, што хрысціянскае жыццё павінна быць радасным нават у цярпеннях.

*Алена Пажога*

# Удзячнасць

**З вялікай радасцю атрымала першы ў гэтым годзе нумар нашай газеты. Шчыра дзякую рэдакцыі за працу над ёй, радуюся, што і я прымаю ў гэтым удзел.**

Нядаўна ездзіла ў Мінск, каб пакланіцца Дарам трох Мудрацоў. Вельмі ўзрушана такой значнай падзеяй у жыцці нас, хрысціян. Нялёгка далася гэтая “пілігрымка”: быў моцны мароз, стаяць у чарзе давялося некалькі гадзін. Але пачуццё радасці – невыказнае! Адчула такую незвычайную палёгку на душы, такую еднасць з Панам Богам і з людзьмі, якія стаялі побач, бо ўсе мы браты і сёстры ў Хрысце.

Падчас гэтай падзеі давялося сустрэцца з вернікамі з многіх куточкаў нашай Беларусі, а таксама з Расіі, Украіны, Літвы і Польшчы. Было прапанавана набыць чысценькія хусцінкі-насовачкі і з асвечанымі паштоўкамі пры прыходжанні дакрануцца да святой рэліквіі. Цяпер гэтыя рэчы я дару сваім родным і знаёмым, каб і яны адчулі еднасць з Сынам Божым і Яго Маці.

Хочацца адзначыць добрую падрыхтоўку гэтага мерапрыемства і выказаць вялікую ўдзячнасць і духоўным асобам, і мясцовай уладзе ад усіх “пілігрымаў”.

*Аліцыя Трафімовіч*, *г. Паставы*

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

**Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае “Каталіцкі Веснік” сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.**

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Марыя Матус** (г. Валожын), **Соф'я Машара** (г. Мёры), **Вольга Парневіч** (в. Крулеўшчына, Докшыцкі р-н), **Леанід Грыбач** (г. Гомель), **Яніна Лоўкіс** (в. Цыбуты, Пастаўскі р-н), **Альбіна Протас** (в. Савуткі, Шаркаўшчынскі р-н), **Леанід і Генадзь Шаблоўскія** (в. Савуткі, Шаркаўшчынскі р-н), **Кацярына і Пётр Юдыцкія** (в. Савуткі, Шаркаўшчынскі р-н), **Ян Кулік** (в. Мікелеўшчына, Мастоўскі р-н, Гродзенская вобл.), **Яніна Ермаковіч** (в. Падсвілле, Глыбоцкі р-н), **Вацлава Спрага** (в. Падсвілле, Глыбоцкі р-н), **А. С. Маслоўская** (в. Ахрэмаўцы, Браслаўскі р-н), **Легіён Марыі Прэзідыум Маці Божай Вострабрамскай** (в. Ахрэмаўцы, Браслаўскі р-н), **Антаніна Альхімовіч** (в. Карабы, Глыбоцкі р-н), **Марыя Кісель** (г. Глыбокае).

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожную першую суботу месяца адпраўляецца св. Імша.

**Дарагія сябры! Дзякуй, што вы ў нас ёсць!!!**

*Рэдакцыя “Каталіцкага Весніка”*

# Жыццё і вера за кратамі



**Кс. Аляксандр Жарнасек наведвае аршанскую турму кожны тыдзень. Ён ведае, як жывуць людзі за кратамі і як шукаюць Госпада. Айцец Аляксандр згадзіўся адказаць "Каталіцкаму Весніку" на некаторыя пытанні пра тых людзей, што пазбаўлены волі.**

**– Чаму Вы пачалі хадзіць у вязніцу?**

– У свой час біскуп Уладзіслаў Блін выпісаў дэкрэт, каб я хадзіў у вязніцу. Тады я толькі пачаў працаваць у Оршы. Але не было сказана, у якую канкрэтна турму.

У Оршы – 2 турмы: 8-ая і 12-ая. І я не хадзіў, бо ведаў і быў упэўнены, што туды ходзяць два святары. Адзін – у адну, другі – у другую. Але аднойчы на нейкім свяце я даведаўся, што яны ходзяць у адну калонію.

Памятаю, мне зрабілася так неспакойна, я пачаў мучацца, уявіўшы, што там знаходзяцца людзі, якія хочуць паспавядацца, пакаяцца – а не могуць, можа, нават і паміраюць там.

На наступны дзень мы пілі каву з маім сабратам-марыянінам. Я сказаў яму, што мне неспакойна, што там нікога няма і трэба ісці. Толькі гэта сказаў – і чую, як мне прыходзіць смс з фрагмента Паслання да Рымлянаў з такімі словамі: *"Таму я стараўся абвяшчаць Евангелле там, дзе яшчэ не было вядома імя Хрыста, каб не будаваць на чужым падмурку, але як напісана: "Каму не абвяшчалася пра Яго, убачаць; і тыя, хто не чуў, зразумеюць"*. Гэта быў знак ад Госпада.

**– Як Вас успрымаюць людзі, што знаходзяцца за кратамі?**

– Па-рознаму. Калі мы пачыналі сустрэчы, нас было чацвёра ці пяцёра. Пасля група вырасла да 20, пазней было і 25 чалавек. Усё залежыць ад таго, куды каго пераводзяць.

З'яўляюцца новыя людзі. Каталікоў там няшмат. Мы падымалі такое пытанне: ці могуць проста прыходзіць зацікаўленыя? Так. Могуць. Наведвалі некаторыя праваслаўныя, сталі хадзіць пратэстанты, бо пастыр да іх не ходзіць. Таму ўспрымаюць па-рознаму. Былі такія, што хацелі ад мяне нейкай выгады, думалі, што я буду нешта прыносіць ім.

Памятаю такую гісторыю, калі адзін вязень падыходзіў, расказваў нешта рэлігійнае, а пасля штосьці прасіў у мяне… Здалёк таксама сядзеў зняволены і стаў на яго крычаць, каб той не лез да мяне… Яны ведаюць адно аднаго нібы псіхолагі. Жывуць разам у закрытым асяроддзі. Таму павінен быў прайсці час, пакуль я больш-менш зразумеў кожнага.

Некаторыя людзі казалі, што мой прыход да іх – "глыток свабоды". Успрымалі мяне як чалавека звонку. Некаторыя думалі пра гэта ў рэлігійным плане і казалі, што чакаюць нядзелі, калі я прыйду. А некаторыя бачылі такую надзею на тое, што за сценамі турмы ёсць жыццё.

Быў такі перыяд, калі яны паміж сабой спрачаліся на тэму веры, даказвалі нешта адно аднаму. І калі я прыходзіў, то пасля казання або размовы ім адкрываліся адказы. Потым яны ўжо ўспрымалі гэта як норму і чакалі нядзелі… Так дзейнічаў Дух Святы.

**– Што адбываецца з верай людзей у турме?**

– Я бачу, што сітуацыя ў турме падобная да становішча на волі. Той, хто шукае Госпада, Яго знаходзіць. А той, што робіць гэта толькі па традыцыі, такім і застаецца. Нават да майго прыходу той, хто рабіў крокі з Госпадам, ён і надалей робіць.

Часам бачыш на Імшы чалавека, які моліцца, спавядаецца, па ім бачна, чаго ён шукае. А часам тыя, хто выходзіў з турмы, вярталіся назад. Я нават не здзіўляўся. Я бачыў, што была такая знешняя ілюзія: чалавек моліцца, а на самай справе ў адносінах з Госпадам не ўзрастае. Таму мая паслуга – гэта такое звяно ў Божым ланцужку. А Госпада яны шукаюць самі.

Раней я расчароўваўся: чалавек выходзіць на волю, ты на яго ўскладаеш надзею, а ён зноў вяртаецца ў турму. Таму самае галоўнае – мець жывыя адносіны з Богам.

**– Чым адрозніваецца служэнне на волі і ў вязніцы?**

– Некалі да мяне прыйшла думка: гэта такія самыя людзі, як і мы… Гэта для нас яны "зэкі". Канешне, трэба браць пад увагу і тое, што на сустрэчы прыходзяць "анёлы" ў параўнанні з тымі, хто застаецца ў камерах. Насамрэч, мараль часцей у турэмным асяроддзі на вельмі нізкім узроўні.

Заўважыў такую схему: грашыш першы раз – табе страшна, наступныя разы працей паўтарыць. Грэх уцягвае. На зоне гэтая ж схема. Толькі зняволеныя спрабавалі "іншы калібр" граху. Таму такія людзі павінны яшчэ больш працаваць над сабой.

**– Вы адпраўляеце толькі Св. Імшу ў турме?**

– Святую Імшу я адпраўляю раз на месяц. А так прыходжу да іх з казаннямі, з гітарай, мы разам спяваем. Падчас казання яны могуць задаваць розныя пытанні, цікавяцца розным. Калі браць тэмы, то гэта вера, грэх, любоў Божая, вернасць, сіла Духа Святога.

**– Што Вы адкрылі для сябе за час гэтага служэння?**

– Па-першае, гэта тое, што туды мяне накіраваў Госпад. Па-другое, я пераламаў сябе ў такіх меркаваннях, што ёсць людзі лепшыя і горшыя, у тым, што гэта бандыты і іх патрэбна асуджаць. Канешне, не гаворыцца пра тое, што яны добрыя. Гасподзь проста дазволіў глядзець на гэтых людзей па-іншаму, без асуджэння і страху.

Я чуў шмат гісторый славы Божай. Мы жывём і ўсё маем у жыцці. А калі чакаем чагосьці ад Госпада, то гэта нешта незвычайнае і фантастычнае. А там ёсць людзі, якія радуюцца з'яўленню пачка гарбаты, атрыманаму пісьму, таму, што адрамантавалі нейкі відэамагнітафон. Гэтыя людзі шануюць маленькае.

Яшчэ ёсць такая праблема. Калі ты вырас у бандыцкім асяроддзі, а пасля выхаду з турмы хочаш стаць дорым чалавекам, табе няма куды ісці. Гэтыя людзі спадзяюцца толькі на Госпада.

Памятаю, як адзін зняволены, будучы на свабодзе, патэлефанаваў мне і сказаў: "Перадайце братам на зоне, што, калі яны выйдуць, няхай вераць толькі Богу"… Ёсць такі прынцып: у чым цябе пасадзілі, у тым ты і выйдзеш. Яго пасадзілі ў нейкіх кедах. Адразу, выйшаўшы, ён падумаў, што патрэбна набыць новы абутак. Потым пайшоў у царкву памаліцца. Там да яго падыходзіць жанчына і пытае: "Які ў цябе памер абутку?" У яго быў 43-ці. Жанчына кажа: "У мяне памёр муж. Я хачу табе даць новы абутак твайго памеру"…

Гэта сапраўды цуд Божы, які праяўляецца там, дзе ёсць нейкая бездапаможнасць, немач. Госпад з'яўляецца абаронцам такіх людзей. Часам людзі ўцякаюць у турму, яны там заўважаюць не толькі галечу людскую, але і славу Божую.

*Гутарыла*
*Ірына Грэйць*

## Божае слова

*Пан Езус кідае зярняты ў глебу,*
*Каб Божае Слова змагло прарасці,*
*Было нам апорай у кожнай патрэбе,*
*Служыла кірункам у нашым жыцці.*

*Памолімся шчыра, каб Слова пачулі,*
*Жылі дабрынёю, як вучыць нас Бог,*
*Каб сэрцы любоўю Яго ахінулі,*
*У рай не шукалі без Бога дарог.*

*Штодзённа прымаючы Божае Слова,*
*Нам Духа Святога яснее святло.*
*І сэрцам раскрыецца існасць нанова,*
*Узвысіцца вера, і знішчыцца зло.*

*Каб зерне ў добрую глебу папала,*
*А сэрцы сумелі нябёсам служыць,*
*Папросім садоўніка, нашага Пана,*
*Зрабіць урадлівым сад нашай душы.*

***Марыя Януш**, агр. Крулеўшчына*

# Папа Францішак пра таямніцу смерці

**Таямніца смерці была ў цэнтры ўвагі Папы Францішка падчас ранішняй Эўхарыстыі ў Доме св. Марты 6 лютага 2014 г.**

Каментуючы першае літургічнае чытанне, у якім гаворка ідзе пра смерць караля Давіда, Пантыфік заклікаў вернікаў прасіць у Бога аб трох ласках: памерці ў еднасці з Касцёлам, у надзеі, і пакінуўшы пасля сябе спадчыну хрысціянскага сведчання. Святы Айцец паставіў у прыклад караля Давіда, які, хоць і быў грэшнікам, не стаў здраднікам: ён да канца заставаўся са сваім народам. Гэта важна таксама і для сучасных хрысціян – да канца заставацца ў Касцёле, нават, будучы грэшнікамі, не станавіцца сапсаванымі, памятаць, што Касцёл – гэта Маці, якая ачышчае.

Францішак заўважыў: Давід памёр у спакоі і з упэўненасцю, што будзе спачываць з айцамі сваімі. У сувязі з гэтым Пантыфік заклікаў прасіць Бога аб ласцы смерці з надзеяй на тое, што "па іншы бок нас чакаюць, па іншы бок таксама ёсць працяг дома, працяг сям'і", адсутнічае самота.

Папа звярнуў увагу на тое, што пасля смерці Давід пакінуў у спадчыну "40 гадоў панавання" і "кансалідаваны і аб'яднаны народ". Ён адзначыў, што для хрысціян самай каштоўнай спадчынай з'яўляецца сведчанне, якое яны давалі ў жыцці і якое перададуць нашчадкам. "Падумаем пра святых, якія жылі Евангеллем з вялікай сілай, якія пакінулі нам у спадчыну жыццёвы шлях і лад жыцця", – заклікаў Пантыфік.

*Ватыканскае радыё*

# Новы біскуп у Мінску

**Пасвячэнне ў біскупы Юрыя Касабуцкага адбылося ў галоўным касцёле Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі 25 студзеня. Біскуп Юрый да гэтага часу з'яўляўся канцлерам дыяцэзіі і быў пробашчам у парафіі Залатая Горка ў Мінску.**

**кс. Віктар Місевіч**, *тэкст;* **Ірына Грэйць**, *фота*

З нагоды свята архікатэдра Імя Найсвяцейшай Панны Марыі была перапоўнена людзьмі. Прыехалі былыя аднакурснікі Юрыя Касабуцкага, святары з розных беларускіх дыяцэзій, яго родныя і блізкія. Падзеі можна смела надаць міжнародны характар, таму што прысутнічалі біскуп з Латвіі, духавенства з Украіны і Польшчы, а таксама прадстаўнікі дыпламатычных місій і іншых хрысціянскіх канфесій.

Чамусьці не было прадстаўнікоў з Праваслаўнай Царквы.

Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, будучы галоўным цэлебрансам і кансакратарам, шчыра прывітаў усіх прысутных, нагадаўшы, што кожны ў катэдры перажывае гістарычную падзею. Іерарх нагадаў пра перaслед у савецкія часы і распавёў, як калісьці заходзіў у мінскую катэдру, якая была тады яшчэ звычайнай спартовай залай. У гаміліі арцыбіскуп засяродзіўся на галоўных біскупскіх абавязках і падкрэсліў, што найважнейшае заданне біскупа – гэта абвяшчэнне Божага слова.

Апостальскі Нунцый у Беларусі Клаўдыё Гуджэроці прачытаў папскую булу – спецыяльны дакумент ад Святога Айца, дзе ён прызначае выбранага кандыдата на пасаду дапаможнага біскупа Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. Прадстаўнік Апостальскай Сталіцы нагадаў вернікам, што Папа Францішак зрабіў спецыяльны падарунак для Беларусі, прызначаючы трох маладых біскупаў. Ён сказаў, што біскуп Юрый Касабуцкі малады і з'яўляецца нібы сонцам, якое, нягледзячы на халоднае надвор'е, павінна даваць цяпло любові Божага Сэрца. Арцыбіскуп падкрэсліў, што "пастыр без паствы не мае сэнсу, таму старайцеся імкнуцца з біскупам да радасці вечнага Бога".

Біскуп Юрый Касабуцкі з'яўляецца дапаможным біскупам, таму ён павінен так, як напісана ў паскай буле, "заўсёды ўмацоўваць лучнасць са сваім арцыбіскупам". Новапасвечаны біскуп сказаў "Каталіцкаму Весніку", што будзе дапамагаць усюды, там, дзе патрэбная яго дапамога. Зразумела, што і ў адміністрацыйных справах Касцёла таксама, бо ў іх ён мае багаты вопыт дзякуючы сваёй папярэдняй працы.





Ксёндз-пралат Віктар Макоўскі з Украіны – аднакурснік біскупа Юрыя – распавёў, што ў семінарыі ўсе лічылі яго сябра інтэлектуалам. Ксёндз Віктар гаворыць: "Мы часта жартавалі і прарочылі яму: "Юра, ты напэўна станеш біскупам!" І вось сёння гэта сталася. Мы яму жадаем Божай дапамогі і дароў Духа Святога. Быць біскупам – гэта значыць, прынесці яшчэ большую ахвяру Пану Богу. Ва Украіне мы будзем маліцца за біскупа Юрыя".

Рэдакцыі Весніка застаецца толькі далучыцца да ўсіх віншаванняў, сказаных у адрас маладога іерарха, і прыгадаць нашым чытачам словы святога мучаніка Ігнацыя з Антыёхіі: "Дзе ёсць біскуп – там Касцёл". І калі пастыр не мае сэнсу без паствы, то паства без пастыра не мае нічога: ні духоўнай ежы, ні абароны, ні праўдзівага і бяспечнага шляху.

Таму такія важныя сёння словы, якія біскуп Юрый змясціў на сваім гербе: Manere in Christo, г.зн., "трываць у Хрысце". Ён як быццам заклікае нас: "Трывайма разам у Хрысце!"



# Айцец Чэслаў Курэчка – "Чалавек года Віцебшчыны"

У канцэртнай зале "Віцебск" 14 лютага адбылася ўрачыстая цырымонія, на якой былі аб'яўлены лаўрэаты звання "Чалавек года Віцебшчыны" за 2013 год. Адным з тых, хто атрымаў узнагароду за актыўную дзейнасць па духоўным асветніцтве грамадства, прапаганду гісторыі і культуры беларускага народа, рашэнне пытанняў добраўпарадкавання, стаў айцец Чэслаў Курэчка, марыянін, які цяпер з'яўляецца апекуном санктуарыя росіцкіх пакутнікаў.

Па традыцыі званне "Чалавек года Віцебшчыны" прысуджаецца ў 20 намінацыях. Колькасць уладальнікаў ганаровай намінацыі заўсёды аднолькавая – 100 чалавек. На сённяшні дзень Віцебшчына налічвае 600 лаўрэатаў гэтага звання.

Айцец Чэслаў Курэчка нарадзіўся ў 1960 годзе, адукацыя – духоўная семінарыя. Пасля заканчэння ў 1989 годзе Рыжскай духоўнай семінарыі а. Чэслаў пачаў душпастырскую дзейнасць. З 2007 года з'яўляецца пробашчам парафіі Святой Тройцы ў Росіцы. Айцец Чэслаў мае неверагодны талент духоўна ўзмацняць людзей, а таксама ствараць прыгажосць вакол сябе.

Святар прыкладае вялікія намаганні для таго, каб святыня і ўсё навокал добра выглядала. Дзякуючы яму былі створаны Алея Памяці і Алея бласлаўлёных Антонія Ляшчэвіча і Юрыя Кашыры. Заўсёды добраўпарадкаваны вадаёмы, з густам высаджаны кветкі.

Шмат увагі святар надае працы з моладдзю. Пры касцёле быў праведзены пленэр маладых мастакоў вобласці.

У бліжэйшых планах – стварэнне комплекса "Памяць у камені".

*Ірына Грэйць*

# Касцёл супраць войн

У Глыбокім, у парку Перамогі, прайшоў мітынг, прысвечаны 25-годдзю вываду савецкіх войскаў з Афганістана. Па словах намесніцы старшыні Глыбоцкага райвыканкама Галіны Уноковіч, гэты дзень не толькі знак памяці ўсіх загінулых, але і выказванне падзякі ўсім тым, хто вярнуўся дадому з вайны, праз якую прайшло больш за 500 тысяч вайскоўцаў.

Кс. Вячаслаў Пялінак – вікарый Глыбоцкай парафіі – звярнуўся да прысутных на мітынгу: «Сёння мы вельмі часта вымаўляем гэтае страшнае слова «вайна», якое на ўсіх мовах гучыць жахліва. Якой бы ні была вайна справядлівай, бо часам яна неабходная, калі трэба бараніць свой дом, сваю зямлю, але яна заўсёды жахлівая, бо імёны, што тут гучалі – гэта жывыя людзі, гэта людзі, у якіх былі свае мары, сваё каханне, юнацкія подзвігі тут, на гэтай зямлі. І ўсё гэта перакрэслівае адно жахлівае слова – "вайна". Цудоўна, што мы збіраемся ў такія моманты разам – і царква, і касцёл, і свецкія ўлады, каб сказаць сённяшняму свету, даць запавет: «Мы не хочам вайны: ніколі і нідзе».(...) Вайна не можа вярнуцца на гэту зямлю. Мы хочам жыць у спакоі!»

На заканчэнне прамовы святар заахвоціў памаліцца разам за ахвяр гэтай вайны малітвай «Ойча наш».

*Таццяна Смоткіна*



# У Гродне новы біскуп



**Біскупскія пасвячэнні прайшлі ў Гродзенскай катэдры 1 лютага. Згодна з намінацыяй Папы Францішка, ксёндз Юзаф Станеўскі – рэктар Духоўнай Семінарыі ў Гродне – быў прызначаны на адказную пасаду дапаможнага біскупа Гродзенскай дыяцэзіі.**

■ **кс. Віктар Місевіч**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

Катэдра Св. Францішка Ксаверыя ледзь змагла змясціць усіх ахвотных прыняць удзел у літургіі. Прысутнічалі святары і біскупы з беларускіх дыяцэзій і з замежжа, прадстаўнікі дзяржаўнай улады, Праваслаўнай і Лютэранскай цэркваў. Галоўным кансакратарам на свяце быў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч, асіставалі яму Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч і біскуп Пінскі Антоні Дзям'янка. На свята прыехаў арцыбіскуп Гінтарас Грушас, мітрапаліт Віленскі. Яго прысутнасць падкрэсліла блізкія сяброўскія адносіны двух дыяцэзій сёння і ў гісторыі. Варта нагадаць, што тэрыторыя сучаснай Гродзенскай дыяцэзіі раней уваходзіла ў склад Віленскай архідыяцэзіі.

### Натхняльныя словы

Арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроці – Апостальскі Нунцый у Беларусі – прачытаў папскую булу – дакумент, у якім Папа Францішак напісаў, між іншым, што "Аляксандр Кашкевіч, які годна кіруе гродзенскім Касцёлам лацінскага абраду, з прычыны шматлікіх мерапрыемстваў і праектаў пастырскай дзейнасці хацеў мець дапаможнага біскупа, а менавіта памочніка ў ажыццяўленні паслугі навучання, асвячэння і кіравання."

"Няхай ніхто не пагарджае тваёй маладосцю, але стань для верных узорам у слове, паводзінах, любові, веры і беззаганнасці", – гучалі словы Апостала Паўла з амбоны ў касцёле. "Вы – соль зямлі... Вы – святло свету...", – чытаў дыякан у Евангеллі. Натхнёныя радкі са Святога Пісання з'яўляюцца духоўным настаўленнем маладому біскупу Юзафу Станеўскаму. Біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч сказаў у гаміліі: „Вернікам неабходна слова біскупа, неабходна поўная і сапраўдная перадача веры, неабходна яго асабістае сведчанне любові да Збаўцы, неабходны прыклад беззаганнага жыцця".

Апостальскі Нунцый Клаўдыё Гуджэроці нагадаў новаму біскупу Юзафу Станеўскаму, каб ён памятаў пра моладзь, семінарыстаў і пра святароў. "Біскуп Юзаф Станеўскі, будзьце мостам, па якім змогуць пайсці святары, памажыце быць вашаму Ардынарыю – біскупу Кашкевічу – выцягнутай рукой у бок святароў", – сказаў Нунцый. Ён таксама звярнуўся да сабраных вернікаў і сказаў: "Дарагія браты і сёстры, вы з'яўляецеся сэнсам і прычынай сённяшнага свята! Таму што для вас пасвечаны гэты біскуп. Вы з'яўляецеся цудоўным народам!"

### Дзякую хлебаробам…

Біскуп Юзаф Станеўскі звярнуўся да прысутных са словамі падзякі. Ён падкрэсліў сваю вялікую ўдзячнасць Пану Богу за пакліканне і сваім бацькам за належнае выхаванне. У сям'і Станеўскіх, паводле слоў біскупа, штодзённа была малітва, а падчас Вялікага Посту – штодзённа Песні Жальбы і Крыжовы Шлях. Бацькі з дзецьмі, незалежна ад надвор'я, прымалі ўдзел у майскіх і чэрвеньскіх набажэнствах ля прыдарожнага крыжа.

Не забыўся малады іерарх і пра звычайных людзей, якіх Бог паслаў на яго дарозе. Біскуп Юзаф успомніў пра настаўнікаў у школе, пра салдат і афіцэраў з пятнаццаці рэспублік, з якімі ён нёс вайсковую варту на службе тады яшчэ савецкай Радзіме.

Успамінаючы сваю свецкую працу перад семінарыяй, біскуп сказаў: "Дзякую за кожную жменю збожжа, якую мне ўдалося далучыць да вялікага хлебнага каравая нашай Радзімы, працуючы на ніве. Дзякую ўсім хлебаробам. Прашу моцы і сілы для вас, каб на нашым стале заўсёды быў хлеб і было да хлеба".

Біскуп Юзаф Станеўскі 1 лютага ўпершыню блаславіў вернікаў менавіта як біскуп. Трымаючы ў руках пастарал, у мітры і з персцнем на руцэ, ён прайшоў праз касцёл, вітаючы моладзь, дзяцей і старэйшых. Дэвіз маладога біскупа, які адлюстраваны на гербе, – гэта "Радасць Евангелля". З лагоднай усмешкай у прамове ён звяртаўся да кожнага, настаўляючы, прыпамінаючы, просячы і дадаючы адвагі. Такім і павінен быць біскуп. Соллю зямлі, святлом свету і пастырам народа.

# Росіца зноў кліча



Біскуп Алег Буткевіч моліцца на месцы мучаніцтва росіцкіх пакутнікаў

*Працяг са стар. 1*

### Шляхам мучанікаў

Пасля святой Імшы адбылася жалобная працэсія да месца мучаніцкай смерці ахвяр росіцкай трагедыі. Удзельнікі працэсіі прынеслі на пляц мучаніцтва знічы, свечкі, кветкі, каб ушанаваць памяць загінулых. Падчас малітвы біскуп Алег Буткевіч паставіў пытанне: ці ўмеем мы шанаваць жыццё? Прыведзеная статыстыка смяротнасці з прычыны самагубства, алкагалізму, абортаў паказвае, што не цэнім і не жадаем шанаваць уласнае жыццё і жыццё іншых людзей, бо не хапае нам мужнасці і ахвярнасці ў штодзённасці. Вернікі маліліся аб выбаўленні ад усяго злога падчас Пакутнай літаніі. Пасля спеву гімна "Магутны Божа" пілігрымы вярнуліся ў касцёл, адмаўляючы Вяночак да Божай міласэрнасці.

Росіца дапамагае ўзнаўляць жыццёвыя сілы і знаходзіць радасць. Як сказалі жанчыны з Глыбокага, "кожны раз Росіца прымушае па-іншаму біцца сэрца, кожны раз здзіўляе".

# У што верыць Бог? або Яшчэ раз пра Дзень закаханых

**Свята закаханых – Дзень святога Валянціна. Сёння для большасці людзей у нашай краіне ды і ў свеце ўвогуле зусім не важна, адкуль гэты дзень бярэ свой пачатак, хто такі святы Валянцін і ці існаваў увогуле такі чалавек. Ды і гісторый жыцця святога Валянціна, якія пашыраюцца з нагоды гэтага дня, можна налічыць даволі шмат у розных інтэрпрэтацыях.**

**а. Зміцер Чарнель**, *рэдэмптарыст*

Нягледзячы на тое, што распаўсюджаным названае свята стала толькі ў наш час, у свядомасці многіх людзей пануе ўяўленне, што гэта – прыгожая традыцыя і фестываль кахання, які цягнецца сотні гадоў з мінуўшчыны. Не паглыбляючыся ў гісторыю дня, можам ацаніць яго значэнне як феномена сучаснай культуры. Чым гэты дзень стаў для людзей у наш час?

### Камерцыялізацыя кахання

Сучасная культура і сучаснае грамадства ўжо даўно ідуць па шляху, адрознаму ад хрысціянскага. Хрысціянства сёння з'яўляецца толькі адным з элементаў сучаснай культуры, толькі адной са сфераў жыцця чалавека. Гэта часткова праяўляецца і ў свяце закаханых. Так выглядае, што ад хрысціянства ў ім засталося толькі імя святога Валянціна. І самае галоўнае, што страчанае ў гэтым свяце, – само разуменне кахання. Такога кахання, якое яно ёсць у задуме Стваральніка, кахання адказнага і вольнага, якое дорыць сябе іншаму чалавеку і пры гэтым паважае свабоду іншага. Камерцыялізацыя свята стала своеасаблівым знакам камерцыялізацыі людскіх адносін, калі іншы чалавек пачынае ўспрымацца як мая ўласнасць, як прадмет інтэр'еру майго жыцця.

Часта сучасны індывід падыходзіць да кахання са спісам сваіх патрабаванняў і умоваў, якія ён лічыць неабходнымі для існавання такіх адносін, што знаходзіць сваё адлюстраванне і ў спосабе святкавання Дня св. Валянціна. Будзем спадзявацца, што гэта яшчэ не заканамернасць, а толькі тэндэнцыя. Таму нам варта памятаць залатое правіла: ніколі не позна.

*...шукаць праўдзівае каханне мы павінны, гледзячы на прыклад Бога*

У праваслаўнага мітрапаліта Антонія Суражскага спыталі: "Вы верыце ў Бога, а ў што верыць Бог?" І ён адказаў: "Бог верыць у чалавека". І гэта сапраўды так. Інакш ці даверыў бы Бог людзям усё сваё стварэнне? Таму чалавеку ніколі не позна апраўдаць гэтую веру Бога ў нас. Кожны з нас запрошаны да таго, каб увайсці ў Божае Валадарства, туды, дзе ўсе вольна абіраюць Божую волю. Такое Валадарства ласкаю Пана нашага Езуса Хрыста ўжо даступнае людзям у гэтым свеце. Хрысціяне ж, якія павінны быць рукамі Бога ў свеце, маюць магчымасць ствараць гэтае Валадарства вакол сябе.

### Якая яна – праўда?

У нашай краіне жыве больш за 1 млн. католікаў. Гэтага абсалютна дастаткова, каб змяніць цэлае грамадства. Калі кожны хрысціянін стане праўдзівым паслядоўнікам Пана, калі зразумее і прыме Божую праўду, гэтая праўда можа выразна праявіцца ў яго жыцці. І калі Божая праўда будзе праяўляцца ў жыцці мільёна беларусаў, яна асвеціць усю краіну.

Хтосьці запытае: якая яна, гэтая праўда? Езус казаў: "Я — дарога, і праўда, і жыццё" (Ян. 14, 6). "Бог ёсць любоў" (1 Ян. 4, 16). Мы ж створаныя паводле падабенства Бога, а значыць, і Яго любові. Таму і шукаць праўдзівае каханне мы павінны, гледзячы на прыклад Бога. Пра гэтую любоў Святы Айцец Бэнэдыкт XVI напісаў: "У адрозненні ад любові, якая яшчэ няўпэўненая і знаходзіцца "ў пошуку", [Бог] выражае вопыт любові, якая цяпер становіцца сапраўдным адкрыццём іншага чалавека, перамагаючы эгаістычны характар, што дагэтуль выразна дамінаваў. Цяпер любоў ператвараецца ў клопат і служэнне іншаму чалавеку. Яна больш не шукае сябе, не акунаецца ў захапленне шчасцем, але імкнецца да дабра каханай асобы: становіцца адрачэннем, гатова да самаахвярнасці, а нават прагне яе".



### Закваска свету

Таму мы, хрысціяне, як закваска гэтага свету, як соль зямлі (Мц. 5, 13), можам увайсці ў свята закаханых і пасаліць яго сведчаннем сваіх хрысціянскіх адносін, сведчаннем цнатлівасці, адказнасці і павагі да іншага. У гэты дзень словы апостала Пятра накіраваныя да ўсіх закаханых хрысціянаў: "Хай вас упрыгожвае не вонкавае заплятанне валасоў, ані залатыя пярсцёнкі, ані стройнае ўбранне, але схаваны ў сэрцы чалавек у непахіснай спакойнасці і спагадлівасці духу, што вельмі каштоўна ў вачах Божых" (1 Пт. 3, 3-4). "Дык няхай свеціць святло вашае на віду ў людзей, каб яны бачылі вашыя добрыя ўчынкі ды хвалілі Айца вашага, Які ў Небе" (Мт. 5, 17).

# Навяртанне да цуду

**Фізічная актыўнасць, дыетычныя абмежаванні і станоўчы стан псіхаэмацыйнай (духоўнай) сферы – гэта тыя кіты, на якіх умацоўваецца здароўе. Навука даволі марудна ішла да сцвярджэння відавочнага (тым не менш, многія і сёння адмаўляюцца гэтаму верыць, адразу хапаюцца за цудадзейныя хімічныя сродкі).**

**Калі падумаць, то фізічныя практыкаванні – гэта тая ж праца і фізічная актыўнасць, якую чалавек павінен рабіць штодня. Калі ж фізічнай працы не хапае, то трэба прабегчы, прапласці ці пакруціць педалі. Для асобаў сталага веку неабходным фізічным практыкаваннем можа быць наведванне ўнукаў ці дарога да касцёла і ўдзел у Святой Імшы. Дыетычныя абмежаванні – тая самая практыка пастоў, разгрузачныя дні – хрысціянскія посныя серада і пятніца. Будзе лішнім верніку апавядаць пра значнасць духоўнага стану ці пра аздараўляльны эфект добразычлівага клімату ў сям'і ці на працы.**

**Сяргей Кандрычын**, *урач-кардыёлаг, PhD сацыялогіі*



*...асобы, якія займаюцца альтруістычнай працай, у сярэднім жывуць даўжэй, чым іх аднагодкі, засяроджаныя на сабе*

### Цуды, якія трэба рабіць самому

Пра важнасць гэтых прынцыпаў вернік ведае сам, аднак ён часам не гатовы зрабіць самы істотны крок у кірунку да сабе. Ён верыць у цуды, але сам не гатовы іх здзейсніць, зусім не падрыхтаваны, каб рабіць іх свядома, прынамсі, у дачыненні да свайго арганізма.

Ёсць розныя цуды: некаторыя з іх нябачныя, а некаторыя ўспрымаюцца цалкам натуральна. Напрыклад, звычайны цуд: лекары не знаходзяць ніякай хваробы ў маладога неўротыка, калі ў яго "ўсё баліць", тады ён ад злосці на дурных дактароў пачынае бегаць па 10 кіламетраў, і за некалькі тыдняў усе "цяжкія" хваробы праходзяць. Іншы цуд: з нейкаю пухлінаю на руцэ, каб хутчэй памерці, чалавек голы пачынае хадзіць па марозе, у выніку – яго пухліна кудысьці знікае. Нехта выпрацоўвае індывідуальную тэхніку дыхання і пераадольвае хранічнае захворванне лёгкіх з дапамогаю простага слоіка. Ну а іншы купляе самую модную французскую таблетку і … чакае цуду.

Гаворка не пра тыя цуды, у якія трэба верыць, а пра тыя, што трэба рабіць. Гэта тычыцца не толькі экстрэмальных выпрабаванняў, якія часам падкідвае жыццё, а звычайных штодзённых паводзін.

Да гэта ж разраду цудаў можна далучыць вынікі навуковых назіранняў пра тое, што асобы, якія займаюцца альтруістычнай працай, у сярэднім жывуць даўжэй, чым іх аднагодкі, засяроджаныя на сабе; высновы пра станоўчы ўплыў на працягласць жыцця спеваў у касцельным хоры ці дабрачыннай працы. Колькасць падобных навуковых прац стала расце.

Аматарам пігулак было б не лішнім ведаць, што пры большасці хранічных захворванняў сардэчнасасудзістай сістэмы адпаведна падабраны рэжым фізічнай актыўнасці (часта на мяжы індывідуальных фізіялагічных магчымасцяў) па сваім лячэбным эфекце нічым не саступае хімічным лекавым сродкам, а па прафілактычнай значнасці застаецца па-за канкурэнцыяй. Інфармацыя пра гэтыя і іншыя працы выкладзена ў пошукавай медычнай базе MEDLINE.

Хто ж не хоча корпацца ў англамоўных крыніцах, можа звярнуцца да класічнай працы Поля Брэгга "Цуд галадання" і да прац духоўнага прамоўтара гэтага метаду ў Беларусі ксяндза Уладзіслава Завальнюка. Варта пазнаёміцца з кнігамі, якія з'яўляюцца шчырымі заклікамі да самастойнай працы па мацаванні ўласнага здароўя. Па сутнасці гэта заклік-маніфест да самастойнага здзяйснення цуду.

### Лячэбнае галаданне

Не ўстрымаюся і дам некалькі парадаў па лячэбным галаданні. Гэты цуд можа твараць амаль кожны ва ўзросце ад 35 да 65 гадоў. Узроставыя межы вызначаныя з тым разлікам, што ў маладосці большую ролю адыгрываюць фізічная актыўнасць і здаровы стыль жыцця, а ў сталасці – парады лекараў і прафілактычныя мерапрыемствы. У сярэднім узросце чалавек часцей спазнае свае слабыя месцы, аб чым арганізм дае адпаведныя сігналы. Найперш трэба набыць элементарныя веды (сярод беларускіх аўтараў – Вайтовіч Г.А., Шумілаў Н.В.).

Безумоўна, у шэрагу выпадкаў неабходна параіцца з адмыслоўцам, які практыкуе гэты метад, прынамсі, так будзе лягчэй псіхалагічна. І пачынаць варта не з працяглага курса галадання, а з разгрузачных дзён, напрыклад, па пятніцах. Калі аднаго поснага дня на тыдзень не хапіла, то падчас посту можна пагаладаць на вадзе адразу 3 дні (або зрабіць некалькі такіх заходаў – "шчыры пост"). Галаданне да 3 дзён звычайна не патрабуе кантролю лекара, і яго кожны можа практыкаваць у хатніх умовах. Гэта праца, часам нялёгкая, яна патрабуе пэўнага настрою, высілкаў і першасных ведаў. Варта звярнуць увагу на асабістыя прычыны выкарыстання метаду і на правілы выхаду з галадання. Трэба памятаць, што ўсе мы ў фізіялагічным плане розныя, таму нават самы ўніверсальны спосаб лячэння або прафілактыкі застаецца індывідуальным паводле формы выканання.

### Сакрэты вернікаў

*У вернікаў застаюцца свае сакрэты, якія не тлумачыць сучасная навука*

У вернікаў застаюцца свае сакрэты, якія не тлумачыць сучасная навука. Сярод іх той, што намаганні да здароўя не павінны ператварыцца ў мэту існавання чалавека. Сам стан здароўя, як і яго захаванне, не можа быць "жыццёвай дамінантай", хутчэй, здароўе павінна разглядацца ў якасці сродку рэалізацыі гэтай дамінанты. Матывацыя да здароўя (як і да самога жыцця) павінна з'яўляцца вырабам духоўнай сферы. Фізічнае здароўе – каштоўнасць другаснага парадку. Парадаксальна, але калі яна падносіцца як першасная, то паскорана траціцца.

Альтэрнатывы гэтаму меркаванню няма, бо ў любым іншым выпадку матывацыя да выканання практык, якія захоўваюць здароўе, не можа быць дастаткова моцнай, устойлівай і працяглай, а праявы гіпертрафаванага клопату пра ўласнае здароўе часцей выглядаюць камічна: "… а ён так клапаціўся пра сваё здароўе, так шмат правяраўся ў платных цэнтрах…". Клопат пра здароўе не павінен быць празмерным, ненатуральным, не павінен ператварацца ў нейкі асобны культ цела: "не думайце аб сабе больш, чым трэба думаць, але думайце мудра, як Бог кожнага мерай веры надзяліў" (Рым. 12:3).

Усе мы павінны шукаць спосаб дабіцца гармоніі са сваім целам, сумленна працаваць на карысць здароўя. Аднак той, хто не можа знайсці гармоніі са сваім духам, не дасягае душэўнага супакою і немінуча наступіць "на камень спатыкнення".

У заключэнне адзначым, што дарогу да свайго здароўя, як і дарогу да вышыні сваёй веры, чалавек павінен адолець сам. І на гэтым шляху трэба імкнуцца да здзяйснення добрых справаў і малых цудаў – трэба збіраць тыя каменьчыкі, з якіх складаецца вялікі цуд самога жыцця.

# ПЫТАННЕ СВЯТАРУ

## Хрост дзіцяці

***"Я хачу пахрысціць дзіця ў іншай парафіі. Што патрэбна для гэтага зрабіць?"***

**Напытаннеадказвае а. Аркадзь Куляха OCD (Міждыяцэзіяльная вышэйшая духоўная семінарыя імя святога Тамаша Аквінскага, Пінск):**

– У Катэхізісе Каталіцкага Касцёла чытаем, што хрост – брама духоўнага жыцця і іншых сакрамантаў – вызваляе людзей ад граху, адраджае іх як Божых дзяцей і праз упадабненне да Хрыста ўключае іх у супольнасць Касцёла (Пар. Кодэкс Кананічнага Права 849, Катэхізіс Каталіцкага Касцёла 1213). Адпаведным і ўласцівым месцам хросту ёсць уласны парафіяльны касцёл дарослай асобы або бацькоў дзіцяці. Аднак па слушнай прычыне хрост можа быць удзелены ў касцёле іншай парафіі, а нават па-за касцёлам (Пар. Кодэкс Кананічнага Права 857). У такім выпадку дарослы кандыдат да хросту або бацькі дзіцяці (прынамсі, адзін з іх) павінны звярнуцца да свайго пробашча ці іншага ўпаўнаважанага святара, каб атрымаць дазвол на хрост у іншай парафіі. Пазней ім неабходна прадаставіць атрыманы ў парафіі, дзе мае адбыцца хрост, дакумент.

Пра іншыя патрабаванні, звязаныя з хростам, можна даведацца ў кожным касцёле (у парафіяльнай канцылярыі).

## Знак супакою

***"Хвала Хрысту! У мяне ўзнікла такое пытанне: што неабходна гаварыць пасля слоў святара «Перадайце бліжняму знак супакою» падчас Святой Імшы? На польскай мове кажуць «Pokój pat wszystkim», а як адказваць на беларускай мове? І што гаварыць, калі перадаеш бліжняму знак супакою?"***

*Вікторыя*

**На пытанне адказвае кс. Павел Ярашэвіч (парафія Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, г. Пінск):**

– Згодна з рубрыкамі Рымскага Імшала (якім мы карыстаемся падчас Св. Імшы), не патрэбна казаць ніякіх словаў, аднак згодна з традыцыяй, якая сваімі каранямі сягае да традыцыі Габрэйскай, мы кажам словы – "Супакой нам усім." А перадаючы бліжняму знак супакою, падаём яму правую руку і кажам: "Супакой табе". Гэты знак сімвалізуе прымірэнне і сцвярджае, што паміж намі не існуе варожасці.





кс. Павел Ярашэвіч

## Чысцец

***"Хвала Хрысту! Чаму памерлыя, трапіўшы ў чысцец, не могуць сабе дапамагчы?"***

*Наталля*

**На пытанне адказвае кс. Павел Ярашэвіч (парафія Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, г. Пінск):**

– У чысцец трапляюць душы, якія жылі ў любові і сяброўстве з Богам, але не да канца паядналіся з Ім пры жыцці.

Адышлі да вечнасці ў стане "лёгкага" граху і не адпакутавалі за гэта на зямлі. Хоць і заслужылі вечнае жыццё ў раі, але не могуць без перашкодаў увайсці ў неба.

Таму праходзяць часовае ачышчэнне ў чысцы, спадзеючыся на Божую міласэрнасць. Жыццё вечнае залежыць ад нашага зямнога жыцця. Яны не могуць самі сабе дапамагчы, бо нічога не могуць змяніць.

Менавіта таму мы молімся за душы памерлых, бо праз нашую малітву, удзел у Святой Імшы і ўчынкі міласэрнасці можам паменшыць гэты час ачышчэння і дапамагчы ім хутчэй увайсці ў неба.

## Вянчанне цяжарнай

***"Хвала Хрысту! Ці можна вянчацца цяжарнай жанчыне? Муж нехрышчоны, але хоча прыняць каталіцтва. Касцёла паблізу няма. Ці можна зрабіць усё адразу: і хрост, і вянчанне? І колькі трэба рыхтавацца? Дзякуй".***

*Кацярына*

**На пытанне адказвае кс. Павел Ярашэвіч (парафія Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, г. Пінск):**

– Вянчацца можна, толькі патрэбна падрыхтоўка да хросту, якая працягваецца адзін год. Аднак пры неабходнасці можна дамовіцца з мясцовым душпастырам і акрэсліць канкрэтны тэрмін падрыхтоўкі. Таксама не пазней чым за тры месяцы да планаванай даты шлюбу неабходна падаць мясцоваму душпастыру адпаведныя дакументы для заключэння сакраманту сужэнства.

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**23 лютага 2014 г. Мц 5, 38 – 48**

Жыццё вучня Хрыста – гэта жыццё паводле ўзору Настаўніка. Трэба, каб мы не толькі клапаціліся пра справядлівасць у сваіх справах, мы павінны праяўляць міласэрнасць да грэшнікаў і крыўдзіцеляў. Вучань Езуса не павінен шукаць помсты, а павінен дапамагчы грэшніку знайсці навяртанне, што, канечне, не вызваляе нас ад абавязку разважлівай абароны самога сябе. Мы павінны любіць ворагаў, бо яны таксама, як і мы, з'яўляюцца Божымі дзецьмі. Такая любоў перарастае ў іншую, якая існуе паміж язычнікамі. Любіць – гэта штосьці большае, чым толькі пачуцце. Любіць ворага – гэта жадаць для яго дабра праз Бога.

*– Што я думаю пра іншых людзей?*

*– Можа, прагну помсты, а можа, помшчу камусьці?*

*– Ці будую свае стасункі, абапіраючыся толькі на пачуцці?*

*– Ці памятаю пра Бога?*

*– Ці ўмею абараніцца ад зла, якое чыняць мне іншыя?*

*– Ці ў складаных эмацыянальных сітуацыях дзейнічаю паводле пачуццяў або паводле сумлення?*

*– Ці фармірую сваё сумленне, размаўляючы з Богам і са спаведнікам?*

*– Можа, раблю выгляд, што не маю праблем, а калі з'яўляюцца моцныя эмоцыі, я застаюся бездапаможным?*

**2 сакавіка 2014 г. Мц 6, 24 – 34**

Часовыя каштоўнасці не могуць стаць нашым панам. Мы павінны служыць толькі Богу. Мы павінны засцерагацца таго, каб не пачаць пакланяцца матэрыяльным каштоўнасцям. Празмерны клопат пра часовыя даброты можа адцягваць нас ад Пана.

Умацаванне даверу – вось сродак для аздараўлення і ацалення душы.

Мы павінны пабудаваць у нашым сэрцы лесвіцу каштоўнасцяў: напачатку – Божае Валадарства і Ягоная справядлівасць, а пазней – часовыя справы. У такім будаванні жыцця Бог будзе нам дапамогай.

*– Ці кажу, што не маю часу для малітвы, Імшы, споведзі?*

*– Можа, марную гэты час?*

*– Каму ахвярую свой час: Богу ці працы, актыўнасці, грошам?*

*– Пра што я хваляваўся апошнім часам?*

*– Можа, гэта былі грошы, матэрыяльныя пытанні ці сумленне або Божыя справы і выкананне Божай Волі?*

*– Ці не ашукваю самога сябе, кажучы, што без чагосьці з матэрыяльных каштоўнасцяў я не магу існаваць?*

*– Ці не стаўлю сабе занадта высокія матэрыяльныя патрабаванні?*

*– Ці памятаю, што ўсё – часовае, але толькі Бог – вечны?*

*– Ці ўмею знаходзіць добрае, правільнае месца ў маім жыцці для матэрыяльных спраў, каб яны не адцягвалі мяне ад Бога, а прыводзілі да Яго?*

**9 сакавіка 2014 г. Мц 4, 1 – 11**

Езус цалкам паслухмяны Айцу. Ён з'яўляецца ўзорам любові да Бога, але Ён таксама салідарны з чалавекам. Як кожнаму чалавеку, Яму таксама даводзіцца змагацца з ашуканствам шатана. Ён адкінуў спакусу задавальнення супраць Божай Волі сваіх эмацыянальных патрэбаў, пошук толькі свайго фізічнага дабра, не пайшоў за такой спакусай задавальнення сваіх эмацыянальных патрэбаў, за спакусай улады, коштам якой з'яўляецца пакланенне шатану.

*– Якая мая любоў да Бога?*

*– Ці праяўляецца яна ў даверы да Божай любові?*

*– Ці паслухмяны я Богу?*

*– Ці памятаю, што Бог побач са мной у маіх выпрабаваннях?*

*– Можа, веру ў ашуканства д'ябла?*

*– Ці магу адмовіцца ад цялесных прыемнасцей, каб выконваць Божую Волю?*

*– Ці магу адмовіцца ад эмацыянальных прыемнасцей, каб выконваць Божую Волю?*

*– Ці магу адмовіцца ад улады, моцы, значэння, уплыву, каб застацца верным Богу?*

**16 сакавіка 2014 г. Мц 4, 1 – 11**

Пасля першага прадказання Хрыстом Сваёй мукі і ўваскрасення, а таксама пасля заклiку несці крыж з Хрыстом,вучні з'яўляюцца сведкамі Божага аб'яўлення. На гары Табор апосталы ўбачылі Езуса ў ззянні славы. Бог, Які аб'явіўся, пацвярджае боскасць Хрыста. Ён з'яўляецца не толькі чаканым Месіяй, але і Богам. Тое, што Ён гаворыць і робіць, атрымлівае новае, больш глыбокае значэнне. Ягоная смерць і ўваскрасенне – гэта Божае дзеянне сярод нас.

*– Ці памятаю я, што Езус – Бог?*

*– Ці аднаўляю сваю свядомасць, што знаходжуся перад Богам, падчас малітвы, Імшы, у споведзі?*

*– Ці памятаю, што духоўнае жыццё – гэта не толькі мёртвыя духоўныя практыкаванні, але гэта і супрацоўніцтва з Богам, Які будуе сваю святыню ў маім сэрцы?*

*– Ці паслухмяны я Божай навуцы?*

*– Ці давяраю я Богу, Які дзейнічае ў маім сэрцы?*

*– Ці ўспамінаю ў хвіліны цяжкасцей, што жыццё паводле веры – гэта жыццё ў еднасці з Богам?*

*– А можа, забываюся, што Езус – Бог?*

*– Ці паддаюся сумненням або роспачы?*

*– Ці ўспамінаю ў хвіліны выпрабаванняў ранейшыя сустрэчы з Богам?*

*– Ці ўмею ўбачыць Божае дзеянне і Божую прысутнасць ува мне і вакол мяне?*

Разважанні падрыхтаваў
**кс. Павел Кнурэк**

# Вернікі – біскупам

**У лістападзе Папа Францішак прызначыў трох новых біскупаў у Беларусі. Чаго чакаюць вернікі ад новапрызначаных душпастыраў, чытайце ў сённяшнім нумары "Каталіцкага Весніка".**

*Падрыхтавала Ірына Грэйць*



**Уладзік Зарэцкі:**
– Па-першае, хацелася б выказаць сваю радасць ад таго, што ў Беларусі прызначаны тры новыя біскупы. Доўгі час гэта ганаровая пасада абмінала беларускіх святароў. Але гэты час мінуў, і наша Айчына атрымала адразу трох годных душпастыраў! Гэтая падзея таксама сведчыць пра лагоднасць Папы Францішка да нашай Бацькаўшчыны! Біскупы павінны прынесці новы, свежы подых у жыццё католікаў Беларусі. Спадзяюся, што новыя біскупы будуць для беларускіх вернікаў сапраўдным прыкладам хрысціянскага жыцця, мужнымі сведкамі Хрыста і тымі, хто здолее актуалізаваць веру ў Бога ў сучасным жыцці. А ўсім вернікам трэба памятаць пра малітву за нашых пастыраў. Каб мець "святых" святароў, трэба шмат за іх прасіць у Бога!



**Дк. Раман Суша:**
– У кожным з новапрызначаных біскупаў я хацеў бы бачыць аўтэнтычнага святара, якога ўзвышае па-над іншымі прыклад, а не годнасць. У пастырскім служэнні я б чакаў ад біскупаў апекі не проста над заблуканымі авечкамі, а над заблуканымі беларусамі: над народам, які мае сваю мову, сваю ментальнасць і сваю культуру. Больш за тое: Беларусь мае нялёгкую гісторыю і шэраг трагедый, якія пакінулі свой след на духоўнай спадчыне пакаленняў. Таму чакаю ад біскупаў душпастырства, якое ўключае ў сябе супрацоўніцтва са свецкімі экспертамі. Каб пастаральныя заданні мудра размяркоўвалі сярод тых, хто мае харызмат ад Бога, а не прагу кар'еры. Хацеў бы бачыць у іх клапатлівых айцоў, якія не столькі б працавалі і ездзілі, колькі б маліліся, а духоўным прыкладам прыцягвалі на душэўныя размовы заклапочаных пробашчаў. І нарэшце, хацеў бы ў іх бачыць не зорак, але Янаў Хрысціцеляў, якія б не баяліся перамен і справядлівай суровасці, а ў сваёй міласэрнасці былі б даступныя для кожнага.



**Алена Аўласевіч:**
– Важным крокам лічу ўзмацненне працы з моладдзю. Ведаю, што старэйшыя біскупы шмат чаго робяць: чуванні, сустрэчы, рэкалекцыі, але "паства вялікая...". На мой погляд, нашай моладзі не хапае еднасці. Хацелася б, каб шмат чаго рабілася і ў гэтым напрамку. Яшчэ гэта праца з парафіянамі, якія не жадаюць прымаць у касцёле беларускую мову замест польскай. Ведаю, што шмат людзей выраслі на польскай мове і вучылі свае першыя малітвы на ёй. Але як прыгожа, калі чуеш і разумееш Літургію на роднай мове! Таксама біскупы з'яўляюцца прыкладам веры для нас. Спадзяюся, што гэты прыклад будзе толькі ўмацоўвацца і ўзрастаць. Мы чакаем многага ад нашых біскупаў. Веру, што яны шмат зробяць для падтрымкі і ўмацавання Беларускага Касцёла. Але думаю, што ёсць тое, чаго яны чакаюць і ад нас. Таму трэба маліцца за нашых душпастыраў.



**Наталля Александровіч:**
– Я чакаю аб'яднання. Хачу адчуваць сябе часткай улюбёнай сям'і. У кожнага з нас ёсць маленькая сям'я – нашыя родныя парафіі. А біскуп – гэта той, хто павінен аб'яднаць усіх у адну вялікую сям'ю. Тады будзе магчымасць для самарэалізацыі ў дарослых і дзяцей, у моладзі. Вернікі хочуць адчуваць сябе патрэбнымі і любімымі. Асабліва маладым гэта неабходна як паветра.



**Дзмітрый Драко:**
– Біскуп для сваёй дыяцэзіі – пастыр. Хочацца, каб яны сталі сапраўднымі пастырамі для нас. Каб сваім прыкладам паказвалі, як правільна жыць. Каб з гарачынёй у сэрцы даносілі Слова Божае да кожнага з нас. Важна, каб новыя біскупы больш увагі звярталі на тых, хто яшчэ не верыць. Як Хрыстус прыходзіў да грэшнікаў, так няхай і нашыя душпастыры прыходзяць да "хворых на душу" людзей.

## З усмешкай

Адзін чалавек споведаўся:
– Шмат праклінаў, але многа маліўся – гэта ўраўнуецца. Шмат піў, але шмат пасціў – таксама ўраўнуецца. Шмат краў, але многа раздаў людзям – таксама ўраўнуецца.
У гэты момант святар страціў цярпенне і сказаў:
– Бог стварыў цябе, а д'ябал забярэ ў пекла – тут таксама ўраўнуецца!

* * *

Памёр атэіст і прыходзіць да брамы Неба. Св. Пётр па традыцыі ідзе да Бога на кансультацыю і пытаецца:
– Божа, прыйшоў атэіст, што мне яму сказаць?
– Што Мяне няма!

* * *

Прыходзіць хлопец у касцёл, несучы з сабой тэлевізар.
– А куды гэты Вы? – пытае захрыстыянін. – Прынёс яго да споведзі, бо ўвесь час хлусіць.

* * *

На ўроку рэлігіі ксёндз пытае ў дзяцей:
– Які сакрамант называюць першым?
– Сужэнства – гаворыць дзяўчынка.
– Ну, напэўна, не, бо першы сакрамант – хрост, – гаворыць святар.
– О не, – спрачаецца вучаніца. – Я з прыстойнай сям'і, спачатку ў нас сужэнства, а потым хрост!

* * *

Спрэчка мужа і жонкі:
– Калі я выходзіла за цябе, была сляпая і глухая! – гневаецца жонка.
– Ну бачыш, каханая, ад якіх цяжкіх хвароб ты вылечылася пры мне...

* * *

На шлюбе. Святар гаворыць маладым:
– І памятайце пра тое, што напісана ў Бібліі: Дзе пойдзеш ты, там і я.
Нявеста не можа стрымаць смеху:
– Мой муж працуе паштальёнам!

* * *

Урок атэізму ў школе, настаўніца гаворыць: "Дзеці, крычыце ў неба – Бога няма!" Раптам заўважае, што адзін хлопчык стаіць моўчкі. Яна пытае ў яго: "Чаму ты маўчыш?" А ён ёй адказвае: "Калі нікога няма, навошта крычаць? А калі хтосьці там ёсць, то навошта псаваць адносіны?"

* * *

Ксёндз сказаў вернікам, што на наступным тыдні плануе казанне пра грэх падману:
– Каб лепш зразумець мае словы, папрашу Вас прачытаць раздзел 17 з Евангелля св. Марка.
Прайшоў тыдзень. На казанні ксёндз папрасіў, каб той, хто прачытаў раздзел, падняў руку. Хацеў даведацца, колькі людзей прачытала. Усе паднялі руку.
Святар усміхнуўся і гаворыць:
– Кніга св. Марка мае толькі 16 раздзелаў, а цяпер далей буду працягваць казанне па тэме "падман".

## Падзяка

Ёсць людзі, якія праменяцца, як сонейка, якія саграваюць цёплымі словамі і светлай усмешкай. Менавіта такі наш айцец Станіслаў Памыкала. За час служэння ў парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім ён стаў для нас, парафіянаў, вельмі блізкім, родным па духу. Па Божай волі а.Станіслаў развітваецца з намі, каб несці Добрую Вестку вернікам у Віцебску.

Дзякуем Пану Богу за гэты час, калі а. Станіслаў быў з намі. Няхай Езус Хрыстус вядзе нашага дарагога святара блаславёным шляхам служэння, дадае сіл для плённай душпастырскай працы. Няхай Найсвяцейшая Тройца адорвае ўсімі патрэбнымі ласкамі, а Маці Божая атуляе сваёй апекай. Дзякуем а. Станіславу за чулае сэрца, за мудрыя і патрэбныя кожнаму словы, за ахвярную службу Богу і людзям, за прамяністую ўсмешку.



*З удзячнасцю і малітвай, парафіяне касцёла Святой Тройцы г. Глыбокае*

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі
Заснавальнік: мясцовае рэлігійнае аб'яднанне «Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ»
Выдавец: рэлігійная місія «Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Віцебскай дыяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ

Галоўны рэдактар: кс. Віктар Місевіч
Тэхнічны рэдактар: Дзмітрый Лупач
Рэдактар сайта: Марына Сінкевіч
Карэктары: Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Каталіцкі Веснік», перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня», г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 1178

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3400 экз.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 17.02.2014 г. у 18.56

Юрыдычны адрас: 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
Адрас для карэспандэнцыі: 211730, вул. Кірава, д.6, г.п. Бягомль, Докшыцкі р-н, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(02157)3-30-44
e-mail: mail@catholicnews.by
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі срודка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі РБ